Просто хорошая газета

# Отдушина

12+

ГАЗЕТА РЕКЛАМНАЯ ДЛЯ ДОСУГА

№25 (824) 17 июня 2020 года

Издатель УП «Газета Слонимская» Основана 18 октября 2002 года Выходит один раз в неделю



Васіль Сявец

НАША ІНТЭРВ`Ю

# РЭЖЫСЁР ТЭАТРА ВАСІЛЬ СЯВЕЦ: «Мы залежым ад эканамічнай сітуацыі ў краіне»

**У гэтым годзе Слонімскі драматычны тэатр адзначыў свой юбілей — 30-годдзе. З гэтай нагоды мы працягваем знаёміць чытачоў з тымі, хто працуе ў тэатры, дорыць жыхарам Слонімшчыны свята. Уявіць тэатр без Васіля Васільевіча Сяўца немагчыма. Ён не толькі рухавік творчага працэсу, але і натхняльнік і матыватар артыстаў. Пра тое, якім тэатр быў, якім ён з`яўляецца цяпер і якім будзе, распавёў рэжысёр Слонімскага драматычнага тэатра Васіль Сявец.**

**— Вы памятаеце свой першы дзень у тэатры? З чаго пачалася Ваша творчая дзейнасць?**

— Гэта было вельмі даўно і цяжка памятаецца. Нягледзячы на тое, што скончыў факультэт рэжысуры інстытута культуры ў Мінску (курс Рыгора Іванавіча Баравіка), у Слонімскі драматычны тэатр я прыйшоў працаваць артыстам. У лютым 1993 года спачатку прыйшоў да Мікалая Фёдаравіча Варвашэвіча на практыку, на дыпломны спектакль, у якім сам жа іграў. А пасля я застаўся тут працаваць артыстам. Тады стаўкі рэжысёра не было, а спектаклі ставіў Мікалай Фёдаравіч. Гады тры, напэўна, я працаваў артыстам, а потым Мікалай Фёдаравіч прапанаваў мне: «Ну ты ж вучыўся, паспрабуй, пастаў». Некаторы час падумаўшы, даў згоду. Я знайшоў дзіцячую п`есу Наталлі Нячаевай «Хачу быць чараўніцай». Спектакль да гэтай пары ў нашым рэпертуары.

**— Цяжка было ставіць спектакль? Як артысты ставіліся да маладога рэжысёра?**

— Зразумела, вельмі хваляваўся — гэта была першая сур`ёзная праца, дзе я выступаў як рэжысёр, а не студэнт, якому можна было дараваць хібы. Я ўжо тры гады працаваў з калектывам, ведаў людзей, з якімі працаваў — калектыў быў дружным і ўсе дапамагалі, быў творчы тандэм... Хоць я і хваляваўся, але мне было няцяжка паставіць спектакль — усе былі захоплены цудоўнай п`есай. Колькі б ні ставіў спектаклі, не магу сказаць, што гэта я паставіў спектакль — гэта зрабілі мы разам. Спектакль атрымаўся даволі нядрэнны. Пасля Мікалай Фёдаравіч прапанаваў мне яшчэ ставіць спектаклі.

**— Дзякуючы чаму, на Ваш погляд, менавіта Вам пашчасціла стаць галоўным рэжысёрам тэатра?**

— Гады тры ці чатыры я выконваў абавязкі галоўнага рэжысёра. Звычайна прызначаюць на пасаду (рэжысёра) праз паўгода. Гэта адбылося не таму, што мяне не хацелі прызначаць. Сам прасіў адтэрміноўкі, зусім не хацеў быць галоўным рэжысёрам. На той час галоўным рэжысёрам быў Віктар Васільевіч Небальсін — цудоўны творца і чалавек, але па стане здароўя не мог больш працаваць. Калі ён пайшоў з жыцця, за работу над п`есамі цалкам стаў адказным я.

**— Што самае цяжкае ў працы рэжысёра?**

— Самае цяжкае — праца з людзьмі, знайсці падыход да кожнага, зрабіць так, каб спектакль зацікавіў артыста і каб яны працавалі з табой у тандэме. Каб не толькі ты быў, але і яны ўдзельнічалі, былі зацікаўленыя ў справе. Кожны з нас мае свой адметны характар. А творчыя людзі ўвогуле своеасаблівыя людзі. Яны блізка бяруць усё да душы: хочацца нечага большага, а часта такога не бывае. Каб людзі разумелі, што ты хочаш і чаму так трэба. Я рэжысёр-дэмакрат, але не дэспат. Хаця ў рэжысуры дэспатызм патрэбны, залішні дэмакратызм рэжысёра-пастаноўшчыка мае негатыўны ўплыў — артысты пачынаюць кіраваць рэжысёрам. Я не скажу, што даю поўную свабоду ў ігры і дазваляю рабіць, што яны захочуць.

**— Для таго, каб быць акцёрам, трэба мець спецыяльную адукацыю альбо дастаткова толькі жадання і схільнасцей?**

— Як і ў любой прафесіі, чалавек павінен ведаць асновы. Любы талент трэба накіроўваць. Адукацыя — гэта тое, што дапаможа чалавеку раскласці ўсё па паліцах. Калісьці Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч пачынаў з народнага тэатра. Яго артысты не мелі спецыяльнай адукацыі, працавалі на сваіх асноўных работах і прыходзілі да яго па вечарах, а катэгорыю давалі за талент і працу. Але сам Варвашэвіч меў адукацыю. Ён навучаў прафесіі гэтых людзей, многія перайшлі ў прафесійны тэатр і нават пайшлі на пенсію з тэатра. На гэты дзень усе нашы артысты скончылі акадэмію мастацтваў. Некаторыя з маладога пакалення прыйшлі да нас, скончыўшы каледж мастацтваў. Калі ў чалавека няма адукацыі, мы нават катэгорыю яму не маем права даць.

**— У Вашым тэатры часта змяняецца рэпертуар? Хто вызначае, якая п`еса будзе ставіцца ў новым сезоне?**

— Хаця пры тэатры дзейнічае мастацкі савет, які вырашае гэтае пытанне, апошняе слова за мной. Кожны год у нас дабаўляюцца новыя спектаклі. У сваёй дзейнасці мы кіруемся дзяржаўнымі планамі: фінансавымі, па гледачу, па колькасці спектакляў і іншымі, якіх у старыя часы не было. Я лічу, што гэта абсурд. Для нашай краіны тэатр — гэта прадпрыемства. У кожным каляндарным годзе тэатр павінен паставіць чатыры спектаклі. Наш горад маленькі, шмат зарабіць не можам, таму артысты амаль кожны дзень на гастрольных раз`ездах. З вялікай цяжкасцю мы ставім чатыры спектаклі — не хапае часу. На рэпертуар уплывае таксама і тое, што людзі сыходзяць з тэатра, асабліва моладзь. Таму са сцэны адны спектаклі знікаюць, а замест іх з`яўляюцца іншыя. У некаторых спектаклях ужо памянялася некалькі пакаленняў артыстаў — калі артыстка раней іграла матылька, то ўжо стала іграць бабулю матылька і г.д.

**— Ці хапае Вам часу наведваць іншыя тэатральныя імпрэзы?**

— Калі здараецца бываць у Мінску, то заходжу ў тэатр. Спектаклі іншых рэжысёраў я таксама гляджу і на нашай сцэне. Мы робім абменныя спектаклі, калі тэатральныя трупы з іншых гарадоў прыязджаюць паказваць сваю працу ў Слоніме і наадварот. Зімой мы працавалі ў Новым мінскім тэатры. Таксама працуем з гарадзенскімі тэатрамі — лялечным і драматычным. Наладжана сувязь з Маладзечанскім тэатрам.

**— Каго з артыстаў маглі б вылучыць і чаму?**

— Калі разглядаць склад артыстаў нашага тэатра, то тых, хто б мне не падабаўся, няма. Усе працуюць аддана. За тыя грошы, што яны атрымліваюць тут, не адданы чалавек не змог бы працаваць. Што ўвогуле да беларускіх артыстаў, то такіх каларытных, як Генадзь Аўсяннікаў, Галіна Макарава, Стэфанія Станюта, Глеб Глебаў, Генадзь Гарбук, я не бачу. Наогул, скажу, што я чалавек савецкай эпохі. Мне пашчасціла бачыць артыстаў таго часу. Сёння ёсць таленавітая моладзь, але яе мала. Мы, беларусы, сядзім у сваім закутку, нікуды не высоўваемся, нічога не бачым. Артыстаў мы ведаем па фільмах, хаця кожны з іх працуе у тэатры. Магчыма, не бачым таленавітых беларусаў, бо не хапае грошай, каб здымаць дабраякаснае беларускае кіно. Некаторым, такім як Анатоль Кот, пашанцавала — пачаў здымацца ў расійскіх серыялах, стаў даволі вядомым артыстам. Але гэта адбылося праз расійскія, а не беларускія фільмы.

**— На Вашу думку, чаму нашы артысты не запатрабаваны ў сваёй краіне — патрэбна выехаць за мяжу, зняцца ў расійскіх серыялах?**

— На жаль, у нашай краіне мастацтва зусім не патрэбна. Лічыцца, што сюды не трэба ўкладваць грошы, культурна развівацца. У нас ёсць таленавітыя людзі — мастакі, артысты, рэжысёры, пісьменнікі, драматургі. П`есы Дзмітрыя Багаслоўскага, Андрэя Курэйчыка пастаўлены многімі тэатрамі на постсавецкай прасторы і маюць поспех. У нас пра іх ніхто нічога не ведае. Нашай краіне патрэбна сельская гаспадарка. Разумею, што ўсе мы выйшлі з вёскі — я за вёску і сельскую гаспадарку, але культурнае выхаванне чалавеку патрэбна не менш.

ПРАЦЯГ НА С. 2 «АДДУШЫНЫ»

## РЭЖЫСЁР ТЭАТРА ВАСІЛЬ СЯВЕЦ:

# «Мы залежым ад эканамічнай сітуацыі ў краіне»


ФОТА З АРХІВА «ГС»

Дырэктар і артысты тэатра на сцэне

ПАЧАТАК НА С. 1 «АДДУШЫНЫ»

**— Колькі зарабляюць артысты?**

— Усё залежыць ад катэгорыі, ад занятасці, па-рознаму. Да нядаўняга часу мінімальны заробак быў 375 рублёў. Загадам зверху прыйшло распараджэнне давесці ўсім сярэднюю за сакавік да 500 рублёў. У той месяц давялі, што будзе далей — не ведаем. Мы напалову бюджэтнікі. Заробак у нас ідзе з бюджэту, а астатняе — сваімі сіламі.

**— Падчас прагляду чужога спектакля ў Вас не з`яўляецца жадання нешта выправіць, падказаць акцёрам?**

— На вялікі жаль, даўно страціў здольнасць глядзець спектакль як глядач. Я не магу зняць заслону і стаць гледачом. Кожны спектакль гляджу вачыма рэжысёра. Часта гэта перашкаджае атрымаць асалоду ад спектакля. Што хацеў бы адзначыць: не ўсё тое, што мне не падабаецца, гэта дрэнна. Я б паставіў па-іншаму, але ацэньвае глядач.

**— У рэжысёра бывае выгаранне, калі страчваецца цікавасць да працы, ігры пэўнай ролі?**

— Гэта не назавеш выгараннем, але я не люблю і не магу аднаўляць спектакль, які ўжо даўно зняты з рэпертуару. Нават калі просіць адміністрацыя тэатра. Так, ад яго засталіся дэкарацыі, касцюмы, некаторыя артысты. Трэба толькі ўвесці новых артыстаў і аднавіць спектакль. Але мне ўжо не цікава — я прайшоў гэты этап і пакінуў спектакль у мінулым. Яшчэ цяжэй аднаўляць чужыя пастаноўкі. Я не люблю ставіць спектаклі па п`есах, якія ўжо бачыў. Нават калі пабачу па тэлевізары, я думаю: чаму не знайшоў гэты твор раней? Але ставіць яе я ўжо не буду, таму што воляй-няволяй мяне будзе сцягваць да пабачанага. І нават калі я зраблю зусім іншую працу, некаторыя дэталі застануцца. Пасля я загрызу сябе за гэта. Магчыма, я адчуваю, што не зраблю лепш, а калі не зробіш лепш, то навошта брацца.

**— Вы прыйшлі ў тэатр у 1993 годзе. Як за гэты час змяніўся тэатр?**

— Раней будынка ў нас не было, а цяпер, калі ласка, ёсць цудоўны будынак у цэнтры горада — ужо змены. Увогуле, я вельмі сумую па тым тэатры, па тых людзях, з якімі працаваў. Некаторых ужо няма сярод жывых. Магчыма, гэта прагучыць пафасна, але ад Мікалая Фёдаравіча Варвашэвіча ўзяў больш, чым ад педагогаў, хаця мяне вучылі цудоўныя, вялікія людзі. Ён даў мне практыку. Падчас рэпетыцыі ціхенька заходзіў і сядзеў, пільна назіраючы за працай. Пасля, калі ўсе разыходзіліся, мы ішлі разам дамоў і ён даваў мне слушныя парады. Здаралася, што мы гадзінамі сядзелі ў скверыку на плошчы Леніна. Ён раскладаў па паліцах, што я раблю не так і чаму трэба зрабіць інакш. Здаралася, што мы сварыліся наконт таго, як правільна ставіць спектакль.

У нас тады была мара мець сваё памяшканне. Мы ўсе жылі тым, што яно будзе, у нас будуць фестывалі. Кожны з нас чакаў гэтага, аддаючы апошняе. Што да заробку, то ён і тады быў мізэрным, але мы працавалі. Сённяшняя моладзь, якая прыходзіць сюды, застаецца на тэрмін адпрацоўкі, на два гады — і пайшлі. Толькі адзінкі застаюцца. Асноўная маса людзей ідзе вучыцца за нечым высокім, узнёслым. У большасці ў галаве занадта высокія амбіцыі — я стану вялікім артыстам, у мяне вялікі талент. Калі ж прыходзяць і акунаюцца ў гэту атмасферу, то разумеюць, што не ўсё так проста. Ружовыя акуляры разбіваюцца, і яны кідаюць гэтую прафесію. Я на іх не ў крыўдзе. Калі ты лічыш, што табе патрэбны грошы, а яны патрэбны ўсім, патрэбна стварыць і ўтрымліваць сям`ю, а стварыць няма за што — то сапраўды, трэба шукаць іншую прафесію. Гэтай прафесіяй у Беларусі зарабіць грошы немагчыма.

**— Як бы Вы сябе ахарактарызавалі як рэжысёра, кіраўніка?**

— Гэта сур`ёзнае пытанне. Яго лепш задаць тым, з кім я працую. Я бываю розны — занадта добры. Бываю страшэнна злым, але крайне рэдка — пры выпуску спектакля. Тады мяне баяцца ўсе. Сарвацца і крыкнуць для мяне — недапушчальна. Я не магу абражаць людзей, нават калі вымушаюць абставіны і чалавек заслугоўвае. Калі я злы, гэта не значыць, што я хаджу і крычу, але людзі гэта разумеюць. Калі пачынаю нешта рабіць і бачу, што ў чалавека не ідзе, падказкі не маюць эфекту, то я спыняю працу і сёння не іду далей.

**— Вы задаволеныя тым, як людзі наведваюць тэатр? Што павінна адбыцца, якія меры, магчыма, трэба прыняць, каб людзі часцей наведвалі спектаклі?**

— Наконт наведвання беларускага тэатра — гэта катастрофа, бо гледача няма. І гэта па ўсіх тэатрах. Як толькі ў краіне назіраецца больш-менш уздым эканомікі, людзі атрымліваюць трошкі большы заробак — тэатральныя залы становяцца поўнымі. Яшчэ тры-чатыры гады таму назад на нядзельную імпрэзу не было білетаў ужо ў сераду. Сёння запоўненая напалову зала — гэта цудоўна. Мы наўпрост залежым ад эканамічнай сітуацыі ў краіне. Па запоўненасці залы бачна, што на гэты дзень людзям патрэбна камедыя. Іншыя жанры не зусім запатрабаваныя, на жаль. Напэўна, людзям хапае драмы і трагедыі ў жыцці. Людзі хочуць прыйсці ў тэатр адпачыць і ні пра што не думаць. Зразумела, мы ставім камедыі, але хочацца ўзняць нейкую праблему.

**— Вы таксама займаецеся выкладчыцкай дзейнасцю...**

— Я выкладаю ў школе мастацтваў ужо на працягу 17 гадоў. Там ёсць тэатральнае аддзяленне. Я працую не адзін. Са мной выкладаюць артысты Ірына Яцук і Наталля Шугай. За гэтыя гады мы сустрэлі і выхавалі шмат таленавітых дзяцей. Зразумела, што тэатральнае аддзяленне музычнай школы бярэ ўсіх, хто прыйдзе. Мы ніколі не ўдзельнічаем у адборы — каго дадуць, з тымі і працуем, прышлі — і цудоўна. Але сярод малечы вельмі шмат таленавітых дзяцей. Другая справа, што яны займаюцца пяць гадоў, атрымліваюць дыплом і, на жаль, не ідуць навучацца далей, па спецыяльнасці. Бацькі супраць таго, каб іх дзеці звязвалі сваё жыццё з гэтай прафесіяй. У гэтым занятку дарослыя бачаць развіццё дзіцяці. «Але ў прафесію гэту ісці не трэба», — кажуць яны. Сёння прэстыжна быць айцішнікам ці бізнесменам, але толькі не ў тэатр. Хаця дзецям падабаецца тэатр, з задавальненнем пайшлі б у гэту прафесію, але ім кажуць, што ў гэтай прафесіі ты будзеш голы і босы.

**— Ці ўдзельнічаюць дзеці, якіх Вы выхоўваеце, у працы тэатра?**

— У тэатральных спектаклях дзеці не ўдзельнічалі, але адна з маіх вучаніц, Вераніка Паньшына, скончыла каледж мастацтваў, цяпер займаецца ў акадэміі мастацтваў па спецыяльнасці «рэжысура». У тэатры працаваў мой вучань Раман Вайтулевіч, які яшчэ хлопчыкам прыйшоў да мяне. Скончыўшы акадэмію мастацтваў, ён доўгі час працаваў у мяне. Фінансавае пытанне не дазволіла яму далей працаваць у тэатры. Ён ажаніўся, а гэта ўжо другія патрэбы. Паехаў у Мінск. У тэатры больш не працуе, на жаль.

**— Раскажыце, як паміж артыстамі размяркоўваюцца ролі?**

— Звычайна ў акцёра ёсць амплуа — хтосьці комік, хтосьці трагік. Я не кіруюся гэтым правілам. Я бачу, што гэты артыст выканае ролю на выдатна. Здараецца, некаторыя артысты са мной не пагаджаюцца — «гэта не мая роля», «я не хачу гэтага рабіць». Я прапаную паспрабаваць. Пасля артыст кажа, што гэта было апраўданым. Даць нейкую формулу, як я вызначаю, хто якую ролю будзе выконваць, немагчыма — я сам не ведаю. Магчыма, гэта інтуіцыя, маё адчуванне п`есы і артыста.

**— Вашу трупу можна назваць маладой? Як часта моладзь прыходзіць у Ваш тэатр?**

— Моладзь прыходзіць часта, але і сыходзіць часта. Маладой трупу назваць нельга. На гэты дзень у тэатры працуе 12 артыстаў, а заўсёды было 16. Гэта звязана з адтокам людзей, асабліва хлопцаў. Калі дзяўчына выйшла замуж і можа дазволіць сабе займацца любімай справай, то мужчыну трэба ўтрымліваць сям`ю і працаваць за тыя грошы, што плацяць у тэатры — гэта нерэальна. З 12 чалавек чатыры маладыя дзяўчыны да 30 гадоў і толькі адзін нежанаты хлопец. Напэўна, таму і працуе, што нежанаты. Сем чалавек — гэта людзі, якім крышачку за сорак.

**Максім СУДЗІЛОЎСКІ**

ФУТБОЛ. 1-Я ЛИГА

# «Слоним 2017» при поддержке своих болельщиков победил светлогорский «Химик»

**В воскресенье, 14 июня, на слонимском стадионе «Юность» в матче 8-го тура первой лиги чемпионата Беларуси ФК «Слоним 2017» был сильнее «Химика» из Светлогорска.**

**«Слоним 2017» — «Химик» (Светлогорск) — 1:0 (0:0)**
**ФК «Слоним 2017»:** Шишлов — Чудук (к), Лозко (Фазылов, 90), Ровбут, Казаков, Баль (Орлов, 58) — Силинский, Чернодаров — Кошель (Сарамаха, 64), Артюх (Спасюк, 83), Сикоев (Берг, 68).
**Голы:** Кошель (61, с пенальти).
**Предупреждения:** Казаков (16); Кулешов (21), Архипцев (29), Макаров (54).
**Зрители:** 370.

В первом тайме большую часть времени мяч и игру контролировала слонимская команда. Запомнилось несколько опасных навесов и ударов головой по воротам «Химика». Не обошлось без ошибок в обороне, которые могли привести к пропущенному голу хозяевами.

После перерыва судьбу матча решил гол с пенальти, удачно исполненный Сергеем Кошелем и назначенный за снос в штрафной площадке гостей Владислава Казакова.

Затем в течение получаса приезжие футболисты пытались изменить результат встречи. Слонимчанам удалось отстоять свои ворота в неприкосновенности и изредка атакующими выпадами тревожить чужие.

Как ни старались оба соперника, счёт в поединке больше не изменился.

Лучшим игроком матча в нашем составе был признан защитник ФК «Слоним 2017» Владислав Казаков.

**Положение команд после прошедшего тура**

| Команда | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 «Сморгонь» | 8 | 4 | 3 | 1 | 7-3 | 15 |
| 2 «Речицадрев» | 8 | 4 | 3 | 1 | 9-8 | 15 |
| 3 «Локомотив» (Гомель) | 7 | 4 | 3 | 0 | 20-9 | 15 |
| 4 «Волна» (Пинск) | 8 | 4 | 1 | 3 | 13-13 | 13 |
| 5 НФК «Крумкачы» (Минск) | 8 | 4 | 1 | 3 | 15-11 | 13 |
| 6 «Арсенал» (Минск) | 6 | 3 | 1 | 2 | 8-9 | 10 |
| 7 «Гомель» | 7 | 4 | 2 | 1 | 18-6 | 9 |
| 8 «Орша» | 8 | 3 | 3 | 2 | 11-8 | 9 |
| 9 «Ошмяны-БГУФК» | 8 | 2 | 3 | 3 | 9-9 | 9 |
| 10 «Лида» | 8 | 3 | 2 | 3 | 13-14 | 8 |
| **11 «Слоним 2017»** | **8** | **2** | **2** | **4** | **5-9** | **8** |
| 12 «Гранит» (Микашевичи) | 8 | 1 | 1 | 6 | 6-14 | 4 |
| 13 «Нафтан» (Новополоцк) | 8 | 1 | 4 | 3 | 9-12 | -8 |
| 14 «Химик» (Светлогорск) | 8 | 0 | 1 | 7 | 2-20 | -8 |

## Результаты остальных матчей 8-го тура:

НФК «Крумкачы» (Минск) — «Волна» (Пинск) — 2:3 (2:2)

«Гранит» (Микашевичи) — «Сморгонь» — 1:0 (1:0)

«Арсенал» (Дзержинск) — «Речицадрев» — 1:1 (0:1)

«Гомель» — «Лида» — 7:2 (3:1)

«Нафтан» (Новополоцк) — «Ошмяны-БГУФК» — 1:1 (1:0)

«Локомотив» (Гомель) — «Орша» — 1:1 (0:0)

В воскресенье, 21 июня, в Слониме на стадионе «Юность» слонимская команда сыграет с ФК «Гомель».

**Сергей БУЗУН**

# ФОТОКОНКУРС «ДЕТИ В КРАСКАХ ЛЕТА»

Для участия в конкурсе пришлите фотографию детей на фоне летнего пейзажа на электронный адрес gs@gs.by, viber 8 029 133-04-21, сообщением в соцсетях «ВКонтакте» или «Одноклассники».

В описании напишите немного о своем малыше (имя, возраст). Укажите свой контактный телефон для связи. **Заявки принимаются с 04 июня по 16.00 часов 31 июля 2020 г.**


Лерочка у бабушки


Марта Кочерга


Диана Ерошевич


Ромка


Тимофей


Арина


Полина Черехович


Диана и Дамир




Максим


Роман Черехович

**«Белорусские Мальдивы», «Белорусские Карловы Вары», «Курорт «Ружа Хутар», курортно-медицинский центр «Ружанский» — все эти названия так или иначе ассоциируются с уникальным, широко известным не только в нашей стране, но и за рубежом санаторием «Ружанский».**



# Курорт «Ружа Хутар»



Наш санаторий востребован за хорошую транспортную логистику, так как он находится в непосредственной близости от автомобильной и железнодорожной трасс республиканского значения. Поэтому Вы за несколько часов доберетесь к нам практически из любой точки нашей страны.

Пятнадцатилетняя история санатория начинается с детского реабилитационно-оздоровительного центра, который динамично развивался в последние десять лет и превратился в ведущий курортно-реабилитационный центр нашей страны, где есть все для работы как с маленькими детками, так и с пожилыми людьми. Все это делает нас современным многопрофильным санаторно-курортным учреждением семейного типа.

С высоты птичьего полета санаторий естественным образом вписывается в экосистему Ружанской пущи, которая является сегментом Беловежской пущи, простираясь на юго-восточной части Польши и юго-западной части Беларуси, что делает пребывание в «Ружанском» соответствующим комфортному европейскому отдыху, при этом мы также находимся недалеко от границы Украины, в одной климатической зоне с городом Одессой. Это ассоциирует курорт «Ружа Хутар» с полноценным южным отдыхом. Побывав единожды в нашем санатории, получив заряд кислорода и жизненных сил, сюда вы захотите возвращаться снова и снова. Домашняя атмосфера, уютные комфортные номера, доброжелательное отношение персонала и развитая совершенная инфраструктура сделали «Ружанский» любимым и популярным местом оздоровления для многих белорусов.

Санаторий «Ружанский» всегда был нацелен на белорусских граждан, которые традиционно составляют основную часть наших гостей наряду с поляками, прибалтами, русскими, а также другими европейцами, полюбившими наш санаторий за высокий уровень и качество сервиса и медицинских услуг. Наш санаторий — один из лидеров в соотношении «цена-качество», это стало возможным благодаря целенаправленной социально ориентированной ценовой стратегии.

Традиционно мы предоставляем максимальные скидки для социально уязвимых категорий граждан: пожилым людям, инвалидам, пенсионерам и категориям, к ним приравненным, которые доходят до 40%. Работает ряд скидочных программ для детской категории наших гостей. Мы стремимся сделать пребывание в «Ружанском» не более затратным для бюджета белорусских граждан, чем они тратят в повседневной жизни, но при этом, приезжая к нам, они получают уникальную возможность оздоровления и реабилитации по наиболее насущным и злободневным заболеваниям.

В нашем санатории есть все необходимое для VIP-отдыха и удовлетворения самых высоких запросов размещения в люксовых номерах, также мы имеем комфортные недорогие номера класса стандарт. Но, независимо от стоимости путевки, пятиразовое питание и 5-6 процедур получают как VIP-персоны, так и гости со средним достатком. За счет данного подхода реализуется принцип доступности «Ружанского» для всех социальных слоев граждан.

В своей стратегии развития «Ружанский» базируется на таких направлениях, как: сердечно-сосудистые заболевания, заболевания опорно-двигательной и нервной системы, желудочно-кишечного тракта, а также гинекология, косметология, стоматология, педиатрия, лабораторная, функциональная ультразвуковая диагностики и многое другое.

Но самыми главными и востребованными на сегодняшний момент являются заболевания бронхолегочной системы. В последние несколько лет мы активно занимались таким направлением, как реабилитация по пяти ключевым позициям: сердечно-сосудистые болезни, болезни органов пищеварения и опорно-двигательного аппарата, бронхолегочной системы, гинекологические заболевания. Благодаря этой концепции развития у белорусов есть уникальная возможность восстановления утраченного здоровья в условиях пандемии коронавируса. В этот период мы организовали функционирование санатория как курортно-медицинского центра, в котором можно получить амбулаторные консультации и лечение по таким направлениям, как гастроэнтерология, гинекология, косметология, лучевая диагностика, иглорефлексотерапия, диетология, эндокринология, физиотерапия, лечебная физкультура, терапия, педиатрия, лабораторная и функциональная диагностика. В ближайшее время планируется организация приема по специальностям урология и неврология.

У нас открыты и функционируют койки дневного и круглосуточного пребывания, где можно пройти лечение по вышеуказанным направлениям. Находясь на лечении, наши пациенты находятся под круглосуточным наблюдением врача и среднего медперсонала. Помимо развитой санаторно-курортной и медицинской составляющей, местечко «Ружа Хутар» имеет все необходимое для уединенного комфортного элитного отдыха. В комплекс «Ружа Хутар» входят четыре бассейна, два взрослых и два детских, детский аквапарк, три игровые комнаты для детей, две галокамеры (с солигорской, гималайской солями) и янтарная сауна с релакс-зоной, детский зал ЛФК, три бильярдные комнаты, комплекс саун и бань, лодочная станция, пункт проката, зоосад, благоустроенная территория со спортивной инфраструктурой, многочисленными шашлычницами и мангалами, тропами здоровья, беседками, автостоянками, игровыми площадками, фруктовым садом, промышленным и продовольственным магазинами, домиком ремесленника, автомойкой, салоном красоты «Первая Леди». Жилой фонд состоит из пяти корпусов, соединенных с отдельно стоящими лечебными корпусами надземными отапливаемыми переходами, что делает комфортный отдых в любую погоду и шести индивидуальных коттеджей, объединенных в так называемое «Польское предместье».

А за наличие уникального бювета с минеральной водой «Ружанская», используемой для лечения ряда заболеваний, многие называют нас «Белорусскими Карловыми Варами».

Наш санаторий востребован за хорошую транспортную логистику, так как он находится в непосредственной близости от автомобильной и железнодорожной трасс республиканского значения. Поэтому Вы за несколько часов доберетесь к нам практически из любой точки нашей страны.

Сегодня мы продолжаем работать для Вас по самым доступным ценам и готовы подарить незабываемый качественный летний отдых.



**Н.А. НАШИЛОВА,**
**начальник управления маркетинга, контроля качества**

КУРОРТНО-РЕАБИЛИТАЦИОННЫЙ ЦЕНТР «РУЖАНСКИЙ»,
УНП 291187391 25155,
РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ, БРЕСТСКАЯ ОБЛАСТЬ,
ПРУЖАНСКИЙ РАЙОН, РУЖАНСКИЙ СЕЛЬСКИЙ СОВЕТ, Д. ЗАПОЛЬЕ, 1А
ТЕЛ/ФАКС: +375 44 744-02-03;
+375 29 744-02-03;
+7 499 112 04 26




**Время работы магазина:** с 9.00 до 23.00, без обеда и выходных.

**Приходите в магазин по адресу:** г. Слоним, ул. Брестская, 77.

# Новый магазин «KORZИНКА» открылся и ждёт своих покупателей

**В Слониме на улице Брестской, 77 открылся магазин «KORZИНКА» ОАО «Слонимский мясокомбинат». Торговая площадь магазина занимает 330 квадратных метров.**

Необходимо отметить, что ранее по этому адресу находился магазин «Верасок», который не выдержал конкуренции и закрылся.

После модернизации универсам «KORZИНКА» предстал перед покупателями в новом обличии. Посетив обновленный магазин, вы не только останетесь довольны, но и получите эстетическое удовольствие.

Универсам «KORZИНКА» удобен тем, что в нем собран весь многочисленный продуктовый ассортимент. Прилавки просто ломятся от изобилия свежего охлажденного мяса — свинины, говядины, курицы, вкусных колбас, изысканных деликатесов, полуфабрикатов.

Мясной ассортимент представлен продукцией собственного производства, а это значит, что здесь применяются минимальные торговые наценки на всю продукцию.

В универсаме «KORZИНКА» вниманию покупателей представлены молочные продукты питания, сыры, соусы, рыба, консервы, детское питание, макаронные, хлебобулочные и кондитерские изделия, крупы, соки, напитки, овощи, фрукты и многое другое.

В «KORZИНКЕ» проводятся акции выходного дня, когда на продукцию собственного производства действуют скидки от 15% до 40%.

Продукция ОАО «Слонимский мясокомбинат» изготавливается из отборных сортов мяса, поэтому никого не оставит равнодушным.

ОАО «Слонимский мясокомбинат» уделяет особое внимание качеству продукции. Предприятие ежегодно подтверждает право маркировки продукции знаком «Халяль», который является прямым подтверждением качества продукта и его соответствия всем необходимым требованиям и стандартам.

Предприятие-мясопереработчик имеет много других достойных наград. Сегодня продукция Слонимского мясокомбината экспортируется на рынки более десяти стран.

Планируется, что рядом с магазином в летние жаркие дни будет организована продажа мороженого и прохладительных напитков.

Рады новому магазину и слонимчане, которые охотно поделились своим мнением.

**Елена:**



— Я здесь рядом живу, поэтому в магазин пришла уже во второй раз. Магазин стал намного лучше, здесь стало уютнее, расширился ассортимент товара, особенно мяса. Каждый день привозится свежая продукция со Слонимского мясокомбината, и цены приемлемые. Мне очень понравился магазин. Теперь за покупками буду ходить в «KORZИНКУ», которая недалеко от дома.

**Андрей и Татьяна:**




— Заметно преобразился интерьер магазина, стал намного симпатичнее, впрочем, магазины Слонимского мясокомбината и отличаются своим неповторимым дизайном. В магазине, как и во всех магазинах мясокомбината, есть что выбрать и цены приемлемые.

**Войцех:**



— Очень понравился магазин, здесь все есть, все классно сделано, ассортимент приличный, лучше, чем был в старом магазине, и цены нормальные.

**Екатерина:**



— Хороший магазин. Я всегда покупки делаю в магазинах Слонимского мясокомбината: здесь всегда можно купить свежее мясо и другую продукцию. Магазин находится в нашем районе, я здесь рядом живу.

**Анна ВОЛОДАЩУК**
**anna@gs.by**










БЛАГОДАРНОСТИ

# Поздравь своего любимого доктора!



**21 июня медики будут отмечать свой профессиональный праздник — День медицинского работника.**

Благодарные пациенты, читатели «Газеты Слонимской», в канун праздника выражают слова благодарности и признательности людям в белых халатах за профессиональное лечение, своевременное оказание помощи, уважительное отношение, спасенную жизнь, правильно поставленный диагноз, терпение и чуткость.

## Искренне поздравляю медработников с профессиональным праздником!

**Дорогие медики, в знак большой благодарности хочу от души пожелать: будьте здоровы, дерзайте, чтобы жизнь человеку спасать!**

### Людям в белых халатах

Желаю вам я счастья, радости,
Под мирным небом вечно жить,
Лечить людей, не зная устали,
Своим признаньем дорожить!

От боли вы спасать умеете,
И жизнь продлить способны
нам,
Так пусть весь мир вам
улыбается
И вечно солнце светит вам!

О вас буду писать стихами
И от души благодарить.
И ваши руки золотые
Я не смогу вовек забыть.

Они от боли исцеляют,
Лечить, спасать для них закон.
Прошу — простите и примите
Мой низкий, мой земной
поклон!

### Мой милый доктор!

Болезнь коварна, с ней
сражаться трудно,
Просить ее напрасно,
знаю я,
Одна надежда остается у меня
На опыт, знанья и доброту
врача.

Я верю: только он меня избавит
От этой боли страшной и
тупой,
И улыбаясь, уходя домой,
Ему скажу: «Спасибо, доктор,
Мой милый доктор, доктор
дорогой!»

### Врачи способны побеждать!

Пришел к нам вирус с
Востока,
Раньше о нем никто не знал.
Скажите, люди дорогие,
За что и кто нас наказал?

Принес он горе, боль, и слезы,
И неизвестно, когда уйдет.
Страдает наша медицина
И многочисленный народ.

Врачи и день и ночь на
страже,
Людей стараются спасать.
Давайте будем хоть морально
Им настроение поднимать.

Попросим у Бога им здоровья,
Господь чтоб силы им давал.
Болезнь чтоб мимо обходила
И чтоб никто не пострадал.

Живем сейчас на расстоянии,
Боимся друг друга обнять.
Надейтесь, победим корону,
Врачи способны побеждать.

**С уважением,**
**Лидия ЯРОЩУК,**
**инвалид I группы по зрению**

## С Днем медицинского работника поздравляем лаборанта инфекционного отделения Слонимской ЦРБ Анжелику Николаевну Семисенко.

Настоящий профессионализм — это талант, который дается свыше. Его наличие подтвердят десятки людей, которые несут в своих сердцах благодарность за Ваш великий труд и мастерство.
Несмотря на свои настроения и самочувствие, Вы ежедневно помогаете исцелять других людей. Желаем Вам крепкого здоровья, новых высот и всегда чувствовать искреннее удовольствие от всенародного признания Ваших заслуг, ведь более святой и гуманной профессии вообразить невозможно.

**Анна и Константин**

## От всего сердца...

**Известным и неизвестным героям коронавирусного фронта посвящается.**

Да, именно фронта борьбы с невидимым невооружённым глазом коварным врагом. И многие потерпели бы поражение, если бы боролись без врачей. О них и хочу рассказать, а точнее — о слонимских медиках, так как недавно именно они вытащили меня из пограничного со смертью состояния. Не всех их я видела в лицо, да и фамилий и имён не всех знаю. Разве что лечащего врача Лишик Инну Евгеньевну запомнила хорошо, да и многие выделяют её особенно, завидуя тем, кто попал под её покровительство, если слово «завидуя» тут уместно. Не только генералами этого фронта я восхищалась, но и солдатами. Простите за такую образность военную, но другими словами об этом говорить нельзя.

Я обычная пенсионерка, Миленина Нина Ивановна, 74 лет отроду. Пролежала три недели в коронавирусном отделении и сейчас хочу выразить словами переполняющие меня эмоции.

Хотела написать в больничную книгу отзывов благодарность, но думаю, что публичность даст больший результат, чем краткая запись в книге. Да и кто их теперь особо читает — благодарности... Всё больше на жалобы обращают внимание.

Вокруг нас была необычная больничная обстановка, напоминающая центр подготовки космонавтов: противочумные костюмы напоминали скафандры, лица за пластиковыми щитами, маски по самые глаза, перчатки. Ну просто космонавты, только почему-то в резиновых сапогах. Сейчас можно и улыбнуться в этом месте, но тогда мне было не до смеха. Я готова была руки целовать сестричке, которая ловко ставила капельницу за капельницей, одетая в эти «доспехи», но сил не было даже слово сказать.

Никакая клятва Гиппократа не заставит каждый день идти на риск, если не будет любящего сердца, которое видит не только страдающего человека, но и то, что это чей-то сын, брат, мать отец... На войне нет атеистов, наверное, и они знают, что человек просто может уйти туда, где ни боль, ни слёзы не имеют больше власти. Но как будут жить те, которые не отворят двери дома любимому человеку. И они вытягивают изо всех сил людей, даже уже потерявших интерес к жизни из-за тяжести недуга (не за зарплату, не за благодарность, которая не всегда бывает, а скорее вопреки всему, что стоит на их пути).

Господи, думала я, что творится в мире и почему? Почему — не знаю, но догадываюсь — для чего. Для того, чтобы мы увидели самих себя: кто-то винит жизнь, врачей, близких и далёких в случившемся, кого угодно, но не себя; кто-то живёт так, будто ничего не случилось, не то что делом не желая кому-то помочь, но даже и словом. В большой цене нынче доброе слово, проще в интернете смайлик или лайк отправить одним нажатием пальца, чем уделить личное время.

Но не все так печально, есть известные и неизвестные герои, спрятанные за масками. Я уверена, что Господь знает их в лицо! Да дарует Он им от щедрот своих: Его охрану, мир сердечный и твёрдое упование на милость свыше!

Дорогие сограждане, соблюдая меры предосторожности в этой затянувшейся невидимой войне, мы облегчим труд на передовой и даже сохраним кому-то жизни, а быть может, и себе. Наступил летний сезон, кто-то будет гулять в босоножках, а кто-то по 12 часов изнемогать в этих «скафандрах» и резиновых сапогах. Давайте облегчим их выбор своей ответственностью!

Спасибо вам, дорогие медики, от всего сердца и от всех не сказавших СПАСИБО!

**Нина МИЛЕНИНА**

# ПАЗНАЙ СЯБЕ НА ФОТА

**Паважаныя чытачы! Пазнавайце на старых фотаздымках сябе, сваіх знаёмых і блізкіх і тэлефануйце нам: 8 (01562) 29-999, 8 (029) 133-04-21 у працоўныя дні з 9:30 да 17:30. Найбольш цікавыя распаведы пра герояў здымкаў будуць надрукаваны ў газеце.**



Міліцыянеры-ахоўнікі і іх памочнік



Сталыя слонімцы

На фотаздымак сталых слонімцаў, надрукаваны ў мінулым нумары «Аддушыны», першай адгукнулася ў групе «ГС» сацсеткі УК Наталля Дарафей.

— Другі справа (паміж мужчынамі ў касцюмах) — Собалеў Віктар Цімафеевіч, — напісала Наталля.

Яшчэ дваіх мужчын на гэтым здымку пазнаў наш чытач Аляксандр Вянскоўскі.

— Пяты злева направа на здымку стаіць Генадзь Пяцюра. Ён працаваў вадзіцелем у былой аўтабазе №8 у Слоніме. А перад ім стаіць Мікалай (прозвішча яго цяпер не ўспомню), — расказаў па тэлефоне Аляксандр Аляксандравіч.

Наша сталая чытачка Ірына Гембіцкая пазнала на здымку Васіля Быкава (крайні злева), які ўсё жыццё адпрацаваў слесарам на кардонна-папяровым заводзе ў Слоніме.

На здымак прыгажунь з кветкамі, які быў апублікаваны ў №23, адгукнуўся слонімец Дзмітрый Дайнэка.

— На гэтым здымку я пазнаў сваю аднакласніцу па трэцяй школе Святлану Несцер. Яна тут стаіць крайняя справа. Дзве другія дзяўчыны — гэта аднакласніцы з паралельнага класа, — распавёў Дзмітрый.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ФОТА З АРХІВА «ГС»

# Стафанька


МАЛЮНАК ЯЎГЕНА ІВАНОВА

У той далёкі жнівень усё навокал млела ад спёкі. Стафанька Коржык з Малых Вярхоўцаў, прыгнаўшы на палудзень вясковы статак, узяла ў пуні посцілку і наважылася ісці на сенажаць за выган, дзе мела дзве капы высушанага мурагу. Успомніла, што яшчэ нічога не ела. Зайшла ў хату, адрэзала лусту хлеба, пасыпала соллю, потым вырвала ў агародзе крамяны гурок, абцерла фартухом, бо ўсё не было часу, усё подбегам.

Ела і шпарка ішла па ўтаптанай дарожцы. Не адразу і пачула, як яе аклікнула паштальёнка Франя Кубелька:

— Пастой жа, Стафанечка, пісьмо табе нехта прыслаў, — дастала з палатнянай сумкі канверт, абклеены markамі... 

— Ці не ад брата майго Пятра, што ў вайну разам з іншымі быў вывезены ў Германію? — здзівілася і абрадавалася. — Ага, ягонай рукой напісана...

Яна разарвала канверт і ўглядзелася ў роўныя радкі літараў. Фаня стаяла побач, цікавілася, што ж там напісана.

— Ну што, мо прыедзе? Бачыш, выжыў у гэнай страшнай калатнечы...

— Выжыў, толькі ён цяпер не ў Германіі, а ў Францыі.

— То мо прыедзе? Во радасць табе будзе!

— Будзе, але няшмат. Пятрусь хоча, каб я сплаціла яму за хату.

— Як гэта?

— Ды вельмі проста. Ён там ажаніўся з дзеўкай з суседняга раёна, якая таксама была вывезена. Хочуць вярнуцца ў нашу вёску і купіць хату. Значыць, трэба, каб я сплаціла за бацькоўскую.

— Авохці! А дзе ж у цябе грошы? Адна цягнеш гаспадарку, а ён прыедзе — і плаці.

— Што адна, то сама вінавата. Сватаўся ж да мяне Сымон Рымко, як вярнуўся з вайны. Не пайшла... Сем гадоў мінула, ён ажаніўся з другой, двое дзетак мае, а я адна... Але, мая ты Франечка, сплаціць прыйдзецца. Нікуды я не дзенуся. Гэта будзе па справядлівасці.

Стафанька напісала брату, маўляў, нехай прыязджае, аддасць яму грошы.

Вечарам схадзіла да настаўніка Процькі, які ведаў французскую мову, каб напісаў адрас. Вярнуўшыся, заклеіла канверт, апусціла галаву на складзеныя на стале рукі, і яе худыя як у дзяўчынкі-падлетка плечы затрэсліся ад плачу.

— Дзе я вазьму грошы?! Нават калі прадам карову і цялушку, збуду свінню, што восенню павінна апарасіцца, то, канечне, не хопіць...

Яна наплакалася і пайшла да суседзяў Верайчэўскіх, у якіх мінулым летам хрысціла хлопчыка.

— Не ўбівайся так, Стафанечка, — сказала гаспадыня Вера. — Мы прадамо цялушку-пярэзімка, аднаго парсюка. Калі не хопіць аддаць брату, то я пазычу ў сваёй сястры, — яна гладзіла па галаве Стафаньку, што зноў залілася слязамі. — Галоўнае, што няма вайны, бо столькі ж гора мы перажылі, столькі гора...

— Дзякуй вам, родненькія... — скрозь слёзы мовіла кабета.

— Гарушчая баба, — паспагадаў гаспадар Вінцук, калі яна пайшла.

— А няўжо ж... З малых гадоў б`ецца як рыба аб лёд, бо бацькі рана паўміралі. Такая некалі прыгожая была, як кветачка вясновая, а цяпер пахудзела, пастарэла. Душа баліць, гледзячы на яе...

Грошай назбіралася, і Пётр з жонкай купілі хату на другім канцы вёскі, а Стафанька як дзень, так ноч думала, каб як найхутчэй аддаць суседзям доўг, хоць яны і не прыспешвалі. Цягала на кірмаш у райцэнтр садавіну і агародніну, якой прадавала, але хіба за гэта шмат заробіш?

Праз год у пачатку верасня ў вёску з МТС прыгналі трактар, і брыгадзір Сакалоўскі прывёў трактарыста Івана Шуневіча да Стафанькі на кватэру. Паабяцаў плату, калі яна будзе гатаваць ежу і мыць вопратку. Згадзілася, бо хапалася за ўсякую работу, рада была ўсякай плаце.

Іван быў бяздзетны ўдавец з далёкай вёскі. Немалады, высокі, са сладамі былой прыгажосці на смуглым твары.

З першага погляду Стафанька ўпадабала яго, упалыя шчокі загарэліся румянцам.

Праз нейкі час убачыла, што і ён неабыякавы. Як самаму роднаму чалавеку расказала пра сваё нялёгкае жыццё, пра даўгі, што як цяжкія гіры вісяць на ёй. Аддае, аддае, а іх усё роўна шмат...

— Не бядуй, Стафанечка, я табе памагу. Удваіх мы з усякімі цяжкасцямі справімся... — сказаў, як усё адно кінуў тапельцу выратавальны круг...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Афіша

**Театр**

**21 июня, воскресенье**

Для детей спектакль "Мымрёнок". Начало в 12.00. Цена 4 руб.

Для взрослых спектакль "Незваный гость". Начало в 17.00. Цена 6 руб.

НА ПАЭТЫЧНАЙ ХВАЛІ

## КНІГУ ДАЎНЮЮ АДКРЫЎ

Кнігу даўнюю адкрыў
— Добры дзень! — там
прачытаў.
І замоўк: тужліва стала.
Вусны моцна сцяў.

Калісьці сярод рэчак,
Палёў, лясоў, балот
Душу укладваў у мову
Мой доблесны народ.

— Добры дзень, суседзі! —
Ласкава гучала,
Як сяброў найлепшых,
У госці запрашала.

Людзі сустракаліся,
Вялі свае размовы.
Яны не баяліся
Старажытнай мовы.

Мова іх яднала
Ля стала, на лузе.
«Добры дзень» гучала
Ва усёй акрузе.

Іншае ўжо чую.
—Здравствуйте! — гучыць,
Быццам крык вароны,
Да мяне ляціць.

Кажуць, што вароны
Умеюць пераймаць.
І пра беларусаў
Так можна сказаць?

Гляджу, камянею,
Нападае жах.
Крык шэрай вароны
Застыў у вушах.

Кнігу даўнюю адкрыў,
Шчакой прытуліўся
І на вокладцы пажоўклай
З Бацькаўшчынай зліўся.

Для мяне яна сляза,
І я стаў слязою.
А як быць цяпер
З нашаю душою?

Душы прадаюцца,
Іх можна купіць,
Каб выкінуць на сметнік
Ці з чужой зляпіць?

Сонца ўжо заходзіць,
Моўкне, вечарэе.
Шэрая варона
На сметніку тлусцее.

Кнігу даўнюю адкрыў.
— Добры дзень! — там
прачытаў.
Плечы распраміў,
Галаву падняў.

**2020 год**

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

АДУКАЦЫЯ

## ДРУКУЮЦЦА НОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ ЎРОКАЎ СЛОНІМЦА АЛЯКСЕЯ ЯКІМОВІЧА

**У часопісе «Беларуская мова і літаратура» №5 за гэты год з`явілася першая публікацыя з серыі ўрокаў «Вывучаем беларускі правапіс: практыкум» настаўніка-філолага, ветэрана педагагічнай працы, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі і сталага аўтара «Газеты Слонімскай» Аляксея Якімовіча.**


ФОТА З АРХІВА «ГС»

Аляксей Якімовіч

Комплекс заданняў па мове ўяўляе сабой міні-сцэнарыі ўрокаў, распрацаваных Аляксеем Якімовічам. Гэтыя ўрокі складаюцца з уступнай часткі, фізкультхвілінкі, тлумачэння і замацавання прапанаванай тэмы, адказаў на пытанні і заданні да тэмы і тэкстаў.

Прапанаваныя Аляксеем Якімовічам распрацоўкі настаўнік можа выкарыстоўваць на сваіх уроках як цалкам, так і асобнымі часткамі ці тэкстамі з прыкладаў.

— Гэтыя мае распрацоўкі будуць друкавацца ў часопісе "Беларуская мова і літаратура" на сталай аснове працяглы час, — адзначыў у размове з карэспандэнтам "ГС" аўтар распрацовак.

У пятым нумары часопіса надрукавана распрацоўка ўрока па тэме "Правапіс літар о, е".

**Мікола КАНАНОВІЧ**

Главный редактор Николай Николаевич Кононович

Учредитель
**Анна Павловна ВОЛОДАЩУК**

ГАЗЕТА ВЫХОДИТ НА РУССКОМ И БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКАХ

**Телефоны редакции:**
Velcom: 8-029-133-04-21
**факс:** 8 (01562) 2-90-00
звонить с 9.00 до **18.00**
**Skype — gazslon**

Для корреспонденции: 231799, г. Слоним, ул. Красноармейская, д.41
Юридический адрес: г. Слоним, ул. Красноармейская, 41

Регистрационное удостоверение №65 от 05.03.2009 года выдано Министерством информации Республики Беларусь. Свидетельство о госрегистрации УП "Газета Слонимская" ЮКЛ № 001845, выданное Гродненским областным исполнительным комитетом от 03.04.2003 г.

Авторы опубликованных материалов отвечают лично за подбор и достоверность фактов, их точка зрения может не совпадать с мнением редакции. Редакция не ведет переписки с читателями и оставляет за собой право не рецензировать и не возвращать рукописи. Редакция не несёт ответственности за содержание рекламы.

**Свободная цена**

Тираж номера 2500 экз.

Время подписания к печати по графику 16 июня 2020 года 17:00

РЕКЛАМНАЯ СЛУЖБА
8(044) 715-90-03
8(044) 762-48-39; 8(044) 715-90-03
ул. Красноармейская, 41
**e-mail:** gs@gs.by, gazslon@gmail.com

Объем — два условных печатных листа.
Газета отпечатана в ГОУПП "Гродненская типография", Гродно, ул. Полиграфистов, 4.
индекс 230025
ЛП №02330/39 от 27.03.2014
Заказ № 2703

Распространяется с газетой "Газета Слонимская" по подписке и в розницу по Республике Беларусь

ISSN 1991-3362




